

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 428 Кастрычнік 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## «ДАЛОЎ ЛУКАШЫЗМ!»

***Дэманстрацыя пратэсту ў Нью-Ёрку ў дзень прамовы прэзыдэнта Беларусі на Генэральнай Асамблеі ААН 22 кастрычніка 1995 г.***



*Ньюёркская паліцыя даглядае, каб кожная з групаў займала прызначанае ёй месца. Фота Я. Сільвановіча*




*Частка плякатаў беларускай дэманстрацыі. Фота А. Сільвановіча*

На Генэральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку ў нядзелю 22 кастрычніка пачаліся тры дні прамоваў лідэраў дзяржаваў-членаў ААН. Кожнаму са 150 лідэраў, што прыбылі на адзначэньне 50-годзьдзя арганізацыі, было адведзена на выступленьне ня больш як пяць хвілін — за выняткам прэзыдэнта Злучаных Штатаў, які прамаўляў даўжэй.

У першы дзень сярод прамоўцаў быў і беларускі прэзыдэнт Лукашэнка, у сувязі з чым сярод 15 групаў дэманстрантаў, якія зыйшліся на адведзеную дзеля гэтай мэты плошчу імя Гамэршэльда (недалёка ад будынку ААН) была і беларуская грамада, чалавек каля 200, зь бел-чырвона-белымі ды амэрыканскімі сьцягамі і шматлікімі плякатамі.

Ладзілі дэманстрацыю трынаццаць арганізацыяў, якія ўтварылі Кааліцыю абароны дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. У кааліцыю ўвайшлі: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, Беларуска-Амэрыканскі Саюз, Беларуска-Амэрыканскае Культурнае і Адукацыйнае Таварыства, Сусьветнае Згуртаваньне Беларускіх Габрэяў, Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Беларускі Каардынацыйны Камімэт Чыкага, Беларуска-Амэрыканскае Жаночае Згуртаваньне, Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада і Згуртаваньне Беларусаў Канады.

На плошчу імя Гамэршэльда ля будынку ААН дэманстранты прыбылі са штатаў Нью-Ёрк, Нью-Джэрзі, Канэтэкет, Пэнсыльванія, Дэлявэр, Агаё і інш. Многія з дэманстрантаў апрануліся ў беларускія нацыянальныя строі. Сярод сьцягоў на шамтлікіх плакатах разам з карыкатурамі Лукашэнкі былі лёзунгі: «Лукашэнка — прыгнятальнік Беларусі», «НЕ аднаўленьню савецкае імпэрыі», «Спыніць тэрарызаваньне апазыцыі», «Далоў лукашызм», «Цэнзура — гэта дыктатура», «Свабоду прафсаюзам» і да гэтага падобныя.

> ***«У афіцыйнай беларускай палітыцы настала ўдушлівая атмасфэра ўсеагульнай падазронасьці, шпіёнаманіі, ваяўнічага антызаходніцтва, несвабоды й паліцыйнага вышуку».*** — Анатоль Майсеня, прэзыдэнт Нацыянальнага цэнтру стратэгічных ініцыятываў «Усход-Захад», «Народная Воля», 3 кастрычніка 1995 (передрук з маскоўскае газэты «Известия»).

Асаблівай увагай фатографаў карысталася карыкатура марыянэткі-Лукашэнкі, якім кіруе рука Масквы і які страляе па амэрыканскім балёне.

Дэманстрацыю, што пачалася апаўдні, блаславілі Мітрапаліт БАПЦ Мікалай сваім пасланьнем і малітвай а. Міхась Страпко, які прыбыў адмысловым аўтобусам разам з суродзічамі з далёкага Кліўленду.

У часе двухгадзіннае дэманстрацыі прамаўлялі др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМ, сп. Пол Самоджы, выканальны дырэктар вашынгтонскага Інстытуту Свабодных Прафсаюзаў — ад імя Амэрыканскай Канфэдэрацыі Працы-Кангрэсу Прамысловых Прафсаюзаў (гл. тэкст заявы асобна ў гэтым нумары). З прывітаньнямі выступілі сп. Янка Ханенка, старшыня кліўлендзкага аддзелу БАЗА, сп. Анатоль Белы, старшыня менскага клюбу «Спадчына», сп. Горст Уліх, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, і інш. Сп. Янка Запруднік зачытаў прамову старшыні Сусьветнага Згуртаваньня Беларусіх Габрэяў Якава Гутмана. Сп. Гутман ня здолеў прыбыць на дэманстрацыю, бо ў тым самым часе ў Брукліне адзначаліся 52-я ўгодкі ліквідацыі нямецкімі акупантамі менскага гета. Памяць расстраляных у Беларусі габрэяў і тых беларусаў, што загінулі, памагаючы ім выратавацца, дэманстранты ўшанавалі хвілінаю цішыні.

На запоўненай людзьмі плошчы імя Гамэршэльда было шмат карэспандэнтаў, тэлерэпартэраў, фатографаў. Прадстаўнікі кааліцыі беларускіх арганізацыяў давалі інтэрв'ю журналістам, раздавалі інфармацыйную літаратуру пра заціск свабоды ў Беларусі. Дэманстранты скандавалі лёзунгі, пяялі беларускія патрыятычныя песьні.

> ***«У краіне мэтанакіравана зьнішчаюцца парасткі дэмакратыі і парлямэнтарызму, зьнішчаецца найвышэйшы заканадаўчы орган».*** — Дзьмітрый Булахаў, старшыня Камісіі ВС па заканадаўству. «Народная Воля», 19.X.1995

Сп. Запруднік зачытаў па-ангельску зварот удзельнікаў дэманстрацыі да дэмакратычных урадаў сьвету з просьбай дапамагчы беларускім дэмакратам абараніць свабоду ў Беларусі і суверэнітэт беларускай дзяржавы (тэкст звароту гл. асобна ў гэтым нумары).

Адбыўся паход беларускай калёны па навакольных вуліцах Нью-Ёрку. Цёплым сонечным днём каляровая беларуская калёна прыцягнула шмат увагі жыхароў гораду, а таксама фатографаў і карэспандэнтаў тэлебачаньня.

Дэманстрацыя закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Тэле- і радыёстанцыі, а таксама найбольш уплывовая газэта «Нью-Ёрк Таймс», у сваіх паведамленьнях пра падзеі дня, падалі таксама і пра беларускую дэманстрацыю.

На наступны дзень гішанскамоўная тэлестанцыя (канал 41) у рэпартажы пра дэманстрацыю ля будынку ААН перадала інтэрв'ю з др. Юркам Кіпелем. У расейскамоўнай радыёпраграме прагучэла інтэрв'ю са Зьміцерам Левітам і Янкам Запруднікам. Беларускую групу паказвалі тэлевізійныя каналы 2, 4, 5, 11 і, праўдападобна, іншыя.

Арганізацыйны камітэт выказвае шчырую падзяку ўсім, хто сваёй працай і сваім удзелам спрычыніўся да вялікае ўдачы дэманстрацыі.

**Я.З.**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЗВАРОТ

**аднадушна прыняты на дэманстрацыі пратэсту, арганізаванай Кааліцыяй 13-ці арганізацыяў ЗША і Канады ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі на плошчы імя Гамэршэльда ў Нью-Ёрку (каля будынку ААН) 22 кастрычніка 1995 году**

Рэспубліка Беларусь пад прэзыдэнцтвам Аляксандра Лукашэнкі коціцца ў прорву беднасьці і ўціску. Прэзыдэнт Лукашэнка і падабраная ім каманда супрацоўнікаў парушаюць Канстытуцыю краіны, ня лічацца з заканадаўчым органам дзяржавы, ігнаруюць пастановы Канстытуцыйнага суду ды топчуць дэмакратычныя свабоды і правы чалавека.

Лукашэнка адказны за пабіцьцё ў красавіку сёлета ўзброенымі замаскаванымі паліцыянтамі органаў бясьпекі 19-ёх парлямэнтарыяў, якія праводзілі галадоўку ў будынку парляманту ў Менску;

Лукашэнка адказны за звальненьне з працы рэдактароў няўгадных яму газэтаў і тэлевізійных камэнтатараў, за забарону незалежных газэтаў і выдавецтваў працягам некалькіх апошніх месяцаў;

Лукашэнка бязупынна падае хлусьню ў сродкі масавай інфармацыі і грамадзкасьці, прыхоўваючы гэтым карупцыю і парушэньні ягонай адміністрацыяй Канстытуцыі краіны;

Лукашэнка адказны за забарону свабодных прафсаюзаў, арышт іхных кіраўнікоў, замарожаньне банкавых контаў, канфіскацыю маемасьці;

Урад Лукашэнкі, падсобнічаючы імпэрскім махінатарам у Расеі, адказны за здушэньне культурнага жыцьця нацыянальных мяншыняў Беларусі, у тым ліку габрэйскіх грамадаў;

Варожасьць прэзыдэнта Лукашэнкі да дэмакратычных свабодаў, ягонае ўжываньне гвалту супраць палітычных апанэнтаў, няпрыйманьне ідэяў вольнага рынку і настальгія па Савецкай імпэрыі спрычынілі аднаўленьне ў Беларусі атмасфэры халоднае вайны, што прывяло да састрэленьня ваенным мірнага амэрыканскага паветранага балёну і гібелі двух амэрыканскіх пілётаў у верасьні сёлета.

У абліччы ўсяго гэтага мы заклікаем міжнародную грамадзкасьць зьвяртаць больш увагі на заціск свабоды і правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

Мы просім пасладь міжнародных назіральнікаў на трэці тур парляманцкіх выбараў у Беларусі, што адбудуцца 29 лістапада 1995 году.

Мы заклікаем усе дэмакратычныя ўрады, палітычныя партыі і праваабарончыя арганізацыі сачыць уважліва за падзеямі ў Беларусі, якая сталася выпрабавальным палігонам для расейскіх імпэрскіх камбінацыяў, у якіх прэзыдэнт Лукашэнка служыць ініцыятарам і дабраахвотнай прыладай.

Мы зварачаемся да заходніх лідэраў з заклікам дапамагчы беларускім дэмакратам у іхным змаганьні за ўсталяваньне дэмакратычнага ладу ў сувэрэннай беларускай дзяржаве.

Мы хацелі-б нагадаць кожнаму, што Беларусь ляжыць пасярэдзіне паміж Масквой і Бэрлінам, паміж усходам і захадам Эўропы, і што разьвіцьцё падзеяў у Беларусі павінна стаццa аб'ектам зацікаўленьня з боку ўсяго сусьветнага грамадзтва, калі мы хочам, каб не дайшло да канфрантацыі паміж Усходам і Захадам.

## ТАРАЗЕВІЧ ПРА ЛУКАШЭНКУ: «АРЫЕНТАЦЫЯ ТОЛЬКІ НА РАСІЮ»

Усё больш і больш палітычных дзеячоў Беларусі пераходзяць з афіцыйных структураў у лягер апазыцыі, бачачы тупік, у які вядзе дзяржаву прэзыдэнт Лукашэнка. Адзін з гэтых дзеячоў — Георгій Таразевіч, былы намеснік міністра замежных спраў П. Краўчанкі, а пасьля пасол РБ у Варшаве. Пазбаўлены нядаўна прэзыдэнтам Лукашэнкам свайго пасольскага становішча, сп. Таразевіч цяпер актывізаваўся ў Сацыял-дэмакратычным саюзе (новы блёк, створаны Партыяй Народнай Згоды, Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамадой і Партыяй Усебеларускага Адзінства і Згоды).

У інтэрв'ю газэце «Зьвязда» (3.X) Г. Таразевіч даў адмоўную ацэнку эканамічнай праграме прэзыдэнта Лукашэнкі. Ён сказаў:

«Што датычыцца эканамічнага становішча, то заўважу, што, на жаль, новая выканаўчая ўлада ніякіх новых ідэй у галіне эканамічных ператварэньняў ня прынесла. Паўтараецца тое, што было пры Кебічу: арыентацыя толькі на Ўсход, на Расію. А Расія глядзіць на Беларусь звысоку».

## СПАД ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСІ

У першым паўгодзьдзі сёлета ў параўнаньні з такім-жа пэрыядам леташняга году колькасьць нованароджаных зьменшылася на 5,1 тысячы, ці на 9 працэнтаў, а колькасьць памерлых павялічылася на 0,8 тысячы чалавек, ці на 1,1 працэнта. Жыхароў Беларусі на 1 ліпеня 1995 г. налічвалася 10 мільёнаў 272 тысячы 200.

*(Паводле газэты «Зьвязда», 6.IX.95).*

# ЛУКАШЭНКА НА НЬЮЁРКСКІМ ФОРУМЕ

Ньюёркская Рада Замежных Дачыненьняў, няўрадавая арганізацыя, наладзіла 24 кастрычніка для прэзыдэнта Беларусі паўтарагадзінную сустрэчу з запрошанымі гасьцямі (чалавек 40). У запросінах было сказана, што адбудзецца «Дыскусія з прэзыдэнтам Лукашэнкам». На спатканьне прыбылі ў асноўным людзі зацікаўленыя ў пытаньнях змежнае палітыкі, дыпляматы з ААН, журналісты. Было пару асобаў зь бізнэсаўскіх колаў. Зь беларускага боку на сьпісе запрошаных былі віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясьніковіч, міністр замежных справаў Уладзімір Сянько, пасол Сяргей Мартынаў, шэф беларускай місіі ў ААН Аляксандар Сычоў, Іван Ціцянкоў і Вечаслаў Плютаў (прэзыдэнцкая адміністрацыя), Леанід Аноп, Сяргей Гамберг і Ўладзімір Мартынаў (ТБ і радыё), Уладзімір Каралёў (МЗС), Ларыса Ключнікава (Белінформ), Урал Латыпаў (сакратарыят Лукашэнкі) ды Аляксей Скрыпко і Вадзім Сьмірноў (Бел. місія ў ААН).

У прыкладзенай да запросінаў кароткай даведцы пра палітычную кар'еру прэзыдэнта згадваўся толькі пэрыяд ад 1990 году — камуністычнае камісарства засталося па-за біяграфіяй.

Дыскусіі на сустрэчы з Лукашэнкам ніякай не атрымалася. Сп-ня Рут Ўэджвуд, дырэктар праектаў па міжнародных арганізацыях і заканадаўству, у сваім даўгаватым уступе да «дыскусіі» дала зразумець, што трэба захоўваць прызваітасьць у дачыненьні да гасьця. А тады добрую гадзіну гаварыў госьць, які прадстаўляў сябе як дэмакрата, выканальніка волі беларускага народу, выканальніка рэфэрэндуму, чалавека памяркоўнага, гатовага прыхільна ўважыць патрэбы замежных інвэстараў.

У адным месцы свайго маналёгу прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь выявіў і сваю нацыянальна-палітычную арыентацыю: **«У нас, русских,** есть пословица: поживём увидим», сказаў ён.

Напрыканцы сустрэчы прэзыдэнту Лукашэнку было зададзена колькі пытаньняў. Сваім звычаем (дый ці мог ён інакш?) госьць адказаў на іх коратка, агульна, расплывіста, часамі востра, іншы раз з паблажкай і нават заляцаньнем («Адказваю на Ваша пытаньне шчыра не таму, што Вы прыгожая жанчына, а таму, што Вы зацікаўлены ў бізнэсе зь Беларусьсю»).

Лукашэнка катэгарычна і востра пярэчыў паняцьцю, што ён зацікаўлены ў аб'еднаньні з Расеяй, паўторна карыстаўся словамі «сувэрэнная, незалежная дзяржава», гаворачы пра Беларусь. У адным месцы ён падкрэслена заявіў: «Я-ж ні слова не сказаў пра інтэграцыю Беларусі з Расеяй». І яшчэ раз: «Я не хачу гаварыць пра ніякую форму зьліцьця ці аб'яднаньня з Расеяй».

Адказваючы на пытаньні, Лукашэнка выяўляў часамі сваю раздражнёнасьць: «Вы ня зусім азнаёмлены з маёй праграмай... Вам адкажу такім самым тонам, якім прагучэла Ваша пытаньне». Прэзыдэнт Лукашэнка катэгарычна адкінуў усякую ідэю пра пашырэньне НАТО на дзяржавы Ўсходняй Эўропы.

На пытаньне пра магчымыя дачыненьні Беларусі з Расеяй, калі-б у Расеі ў наступным годзе прэзыдэнтам стаўся Аляксандар Лебедзь або Грыгоры Яўлінскі ці Жырыноўскі, Лукашэнка адказаў, што ён не баіцца нікога з названых людзей.

Як ён ставіцца да заяваў Масквы, у якіх гучыць пагроза дзяржавам блізкага замежжа? — Расея, сказаў беларускі прэзыдэнт, мае права гаварыць пра сваю сфэру уплываў гэтаксама як Амэрыка пра сваю сфэру ўплываў.

Якая існасьць замежнае палітыкі белрускай дзяржавы? Ці ёсьць у гэтай палітыкі розныя кірункі? Адказ: «Які-б там ні быў палітык пры ўладзе ў Беларусі, ён ня будзе арыентавацца толькі на Ўсход. Кожны палітык будзе таксама праводзіць арыентацыю і на Захад».

На пытаньне аб рэлігійным палажэньні ў Беларусі прэзыдэнт Лукашэнка сказаў, што ён — лідэр цэлага беларускага народу і ніводная рэлігійная група ня можа сказаць, што ў дачыненьні да яе няма справядлівасьці.

Пра палажэньне зь беларускай і расейскай мовамі: Рэфэрэндум паказаў, што людзі патрабуюць роўнасьці абедзьвюм мовам. Закон аб мовах, паводле Лукашэнкі, мае ў сабе неапраўданыя патрабаваньні для беларускай мовы. Амэрыканскія бізнэсмэны, сказаў Лукашэнка, жаліліся яму, што яны баяліся адказваць на тэлефонныя званкі ў гатэлях у Менску, бо ім сказалі, што яны забавязаныя адказваць па-беларуску. Відавочна, гэтага нельга было цярпець, сказаў Лукашэнка (барджджэй за ўсё, хлусячы пра скаргі бізнэсмэнаў).

**Т.Б. / Я.З.**

## ВС ЛЕГІТЫМНЫ, НАЎСУПЕРАК ЛУКАШЭНКУ

Канстытуцыйны Суд Белрусі пастанавіў у кастрычніку сёлета аб тым, што Вярхоўны Савет 12 скліканьня (выбраны ў 1990 г.) легітымны, а пастановай (пра якую Беларускае радыё паведаміла 30 кастрычніка) прызнаў важнай папраўку да закону аб выбарах дэпутатаў у ВС. Папраўка зьнізіла зь 50 працэнтаў да 25 працэнтаў мінімальную колькасьць выбаршчыкаў-удзельнікаў галасаваньня, каб выбары лічыліся важнымі.

Прэзыдэнт Лукашэнка адмовіўся падпісаць папраўку да закону аб выбарах і наагул не прызнае легітымнасьці «старога» Вярхоўнага Савету, а новы тым часам ня мае патрэбнага кворуму. Пытаньне трэцяга туру парляманцкіх выбараў, што вызначаныя на 29 лістапада 1995 г., застаецца адкрытым.

## *АРЫШТ ФІЛЬМУ ПРА СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ*

Як падала газэта «ЛіМ» за 8 верасьня сёлета, спасылаючыся на газэту «Имя» (нядаўна забароненую ўладамі), адміністрацыя прэзыдэнта Лукашэнкі выдала загад арыштаваць фільм «На чорных лядах» аб Слуцкім паўстаньні, зроблены паводле апавяданьня Васіля Быкава. Шэраг асобаў датычных да стварэньня фільму атрымалі вымовы. Васілю Быкаву ня выплацілі ганарару.

# ЗАЯВА

## АМЭРЫКАНСКАЙ ФЭДЭРАЦЫІ ПРАЦЫ І КАНГРЭСУ ПРАМЫСЛОВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ (АФП-КПА) НА ДЭМАНСТРАЦЫІ ПРАТЭСТУ СУПРАЦЬ ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ

*22 кастрычніка 1995 г.*

Амэрыканскі прафсаюзны рух заўсёды трымаўся пагляду, што дэмакратыя і правы рабочых непадзельныя. Тыраны разумеюць гэта таксама, і дзеля гэтага прафсаюзы бываюць першымі ўстановамі, якія зьнішчаюцца пры таталітарным захопе ўлады, ці то фашыстамі, ці камуністамі. Усяго некалькі гадоў таму, калі вятры свабоды пачалі дзьмуць па Ўсходняй Эўропе, як і вы, мы цешыліся. Але мы таксама разумелі, што гэта была хісткая перамога — што калі ў гэтых новых дзяржавах ня будзе пашаны правоў чалавека і правоў працоўных, якія будуць даваць магчымасьць ствараць моцныя, незалежныя інстытуцыі, грамадзяне ня здолеюць абараніць тое, што яны здабылі. Гэткія асноўныя правы, на якіх базуецца свабодны друк, незалежныя рэлігійныя арганізацыі і дэмакратычныя прафсаюзы, сёньня апынуліся пад паважнай пагрозай у Беларусі.

На працягу апошніх двух месяцаў незалежныя прафсаюзы ў Беларусі апынуліся пад суровай рэпрэсіяй. У Менску 21 жніўня 1995 г. цэлыя грузавікі ўзброеных аддзелаў бясьпекі атакавалі сяброў незалежнага прафсаюзу рабочых мэтрапалітэну, якія праводзілі чацьверты дзень забастоўкі з прычыны нявыплаты ім іхных заробкаў. На загад прэзыдэнта Лукашэнкі паліцыя атакавала рабочых парадзкальнымі выстраламі, арыштавала 21 забастоўшчыка, перагрэсла памешканьне Свабоднага Прафсаюзу Беларусі і Канфэдэрацыі Дэмакратычных Прафсаюзаў, сканфіскавала дакумэнты і перарэзала тэлефонную сувязь. Пасьля гэтага арыштавалі трох прафсаюзных лідэраў, якіх абвінавацілі ў парушэньні закону аб дэманстрацыях і мітынгах. У Гомелі дзесяткі рабочых гарадзкога транспарту — якія таксама баставалі дзеля нявыплаты заробкаў — былі звольненыя з працы за прафсаюзную дзейнасьць, што зьяўляецца выразным парушэньнем беларускіх законаў і міжнародных канвэнцыяў аб працы.

Міжнародная прафсаюзная грамадзкасьць зарэагавала моцна на гэтыя рэпрэсіі. АФП-КПА і некалькі афіліяваных прафсаюзаў выслалі лісты пратэсту прэзыдэнту Лукашэнку. Міжнародная Канфэдэрацыя Свабодных Прафсаюзаў, у якой згуртаваныя 126 мільёнаў працоўных са 134 краінаў, выслала ў мінулым месяцы групу назіральнікаў і падала афіцыйную скаргу ў Міжнародную Арганізацыю Працы пры ААН.

Які быў адказ прэзыдэнта Лукашэнкі на паток міжнародных пратэстаў? Ён пагражае новымі крымінальнымі пакараньнямі прафсаюзным кіраўнікам, што можа прывесьці да масавага аштрафоўваньня і даўгіх турэмных тэрмінаў. Дэкрэтам 1 верасьня ён наклаў забарону на Свабодны Прафсаюз Беларусі і заклікаў да «ўзмацненьня кантролю над палітычнымі партыямі, грамадзкімі арганізацыямі і прафсаюзамі». Мы баімся, што гэта можа прадказваць канец спадзяваньням на заправдную дэмакратыю ў Беларусі.

Сёньня, калі прэзыдэнт Лукашэнка выступае ў Аб'еднаных Нацыях, мы далучаемся да вас у заклікі спыніць гвалт і рэпрэсіі ў Беларусі. Як і людзі працы ў Злучаных Штатах і на цэлым сьвеце, працоўныя Беларусі не дачакаюцца справядлівасьці і дабрабыту датуль, пакуль ня будзе свабоды ўтвараць свае ўласныя прафсаюзы, свабоды весьці калектыўныя перамовы з працадаўцамі за лепшае жыцьцё і свабоды выказвацца спосабам мірных дэманстрацыяў пратэсту, калі гэта неабходна. Будзьце пэўныя, што Амэрыканская Фэдэрацыя Працы – Кангрэс Прамысловых Арганізацыяў з 14 мільёнамі сяброў будзе далей падтрымліваць сваіх беларускіх братоў і сясьцёр у іхным змаганьні за дасягненьне гэтых асноўных правоў і свабодаў.

# ПАГРОЗА ДЫКТАТУРЫ ЦІ ЎЖО ДЫКТАТУРА?

Амаль два пакаленьні беларусаў вырасьлі за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Яны вырасьлі ў абставінах свабоды чалавека, пашаны яговых правоў, недатыкальнасьці адзінкі, эканамічнай свабоды. Яны вырасьлі ў абставінах, дзе выбраны ўрад служыць сваім грамадзянам; дзе прэзыдэнт, выбраны народам, дае прысягу, што будзе бараніць канстытуцыю і верна служыць свайму народу. Калі-ж ён гэтага ня выканае, дык парлямант можа яго аддаць суду (імпічмэнт).

Нас непакоіць падзеі ў Беларусі. Нядаўна ў Магілёве прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што яму Вярхоўная Рада непатрэбная, што яна яму перашкаджае. Ён пазбавіў права недатыкальнасьці сяброў Вярхоўнай Рады. Ён дапусьціў да пабояў апазыцыі. Ён увёў цэнзуру масавай інфармацыі. Інакш кажучы, забраў ад народу голас. Так пачыналіся дыктатуры Гітлера ды Сталіна. Паступова забіраліся правы грамадзянаў. Нашыя дзяды дапусьцілі да такой дыктатуры і заплацілі мільёнамі нявінных ахвяраў і поўным эканамічным банкруцтвам.

Я стараюся зразумець сп. Лукашэнку. Прадукт камуністычнага ўзгадаваньня. Савецкая канстытуцыя была на паперы адна зь лепшых, але ніхто яе не прытрымоўваўся. Вось і бачым вынікі гэтага. Я разумею, што Вам, сп. Лукашэнка, цяжка прызнаць былую Вярхоўную Раду, якая паводле Канстытуцыйнага Суду ёсьць праўная, але не для Вас, бо там ёсьць апазыцыя. Калі ламаць Канстытуцыю, дык рабеце гэта да канца. Скіньце тытул Прэзыдэнта і аб'явіце сябе Першым Сакратаром КПБ. І гэта будзе адказваць больш рэальнасьці, і пры наступных выбарах Вы паправіце свае памылкі, атрымаеце для сябе 99,9% галасоў. Тады ўжо будзе «дело в шляпе».

Бачыце, тут разважае чалавек, які 50 гадоў ня меў сутычнасьці са сваім народам, але я ўсё-ж веру, што гэты народ не паўторыць памылкаў гісторыі і ў пору спыніць пераход у дыктатуру. Наша дыяспара віншавала сп. Лукашэнку з выбарамі на прэзыдэнта, і я быў адзін з аўтараў гэтага прывітаньня. З сумам мушу сказаць, што мне цяпер сорамна за маю палітычную нясьпеласьць.

**Б. Рагуля**

# ЗАЯВА

## Сойму БНФ «Адраджэньне»

Выканаўчая ўлада Беларусі працягвае груба парушаць законы краіны. Паставіўшы пад жорсткі кантроль дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, прэзыдэнцкія структуры імкнуцца задушыць незалежныя выданьні — адзіныя крыніцы аб'ектыўнай інфармацыі. На гэты раз гвалт ужыты супраць газэтаў «Народная воля»,«Белорусская деловая газета» і «Имя», якія пазбаўлены магчымасьці друкавацца. Парушана адно з найважнейшых правоў чалавека — права атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю. Гэтая антызаконная акцыя яшчэ раз падкрэсліла антыдэмакратычны характар рэжыму.

Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» рашуча пратэстуе супраць парушэньня выканаўчымі ўладамі Закону аб друку і патрабуе спыніць палітыку сваволі і гвалту. Выказваем салідарнасьць з намаганьнямі сумленных журналістаў у цяжкіх умовах спаўзаньня краіны да дыктатуры данесьці да грамадзтва рознабаковую праўдзівую інфармацыю.

*14 кастрычніка 1995 г.*
*г. Менск*

# ЗЬМЯНШЭНЬНЕ Ў ДВА РАЗЫ ЛІКУ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ КЛЯСАЎ

Як сказаў міністар адукацыі і навукі Беларусі Васіль Стражаў газэце «Зьвязда» (30.XI), лік беларускамоўных першых клясаў у пачатковых школах Беларусі зьменшыцца «амаль у два разы». Вынік лукашэнкаўскага рэфэрэндуму. Калі ўвесну сёлета было 25 працэнтаў расейскамоўных першых клясаў і 75 працэнтаў беларускамоўных, дык у канцы верасьня прапорцыя гэтая зьмянілася: 60 працэнтаў расейскамоўных першых клясаў і 40 беларускамоўных.

Гэтую русыфікацыйную палітыку ўлады апраўдваюць тым, што канстытуцыя пакідае бацькам права выбару мовы навучаньня. А на бацькоў узьдзейваюць манапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі ды прыклад найбольшага русыфікатара, прэзыдэнта Лукашэнкі зь яговай пагардай да беларускае мовы.

# СКАСАВАНЫЯ НАМІНАЛЫ БЕЛАРУСКІХ РУБЛЁЎ

Інфляцыя зьядае грошы у пераносным і даслоўным сэнсе. Нацыянальны банк Беларусі выключыў з абарачэньня разьліковыя білеты Нацбанку вартасьцю 50 капеек, 1, 3, 5, 10 і 25 рублёў. Нядаўна быў уведзены ў абарачэньне банкнот з найвышэйшым наміналам у 50.000 рублёў.

**Пятрусь Макаль**

# АДРАДЖЭНЦЫ І АДРАЧЭНЦЫ

*То з надзеяю, то са страхам*
*Ужываюцца, як шаленцы,*
*Пад адзіным айчынным дахам*
*Адраджэнцы і адрачэнцы.*

*Адраджэнцы —*
*прамень у вакенцы*
*Што высьвечае Бога аблічча.*
*Слугі дэмана, адрачэнцы*
*Зброяй бразгаюць ваяўніча.*

*Тыя, доля чыя праспана,*
*Вечна рады выцягвацца ў струнку —*
*Рабалепна глядзяць на пана,*
*Сьлёзна просячы паратунку...*

*Хоць ня знаем, куды мы едзем,*
*Хоць і нас ліхаманкава водзіць,*
*Нашы звадкі —*
*ня ў прыклад суседзям! —*
*Да крыві яшчэ не даводзяць.*

*Вас, як д'яблавых навучэнцаў,*
*Адшчапенцаў і адрачэнцаў,*
*Гневу нашых нашчадкаў залева*
*Судна змые з айчыннага дрэва!*

*Перад поклічам чорных дзюрак*
*Утрымацца вы зможаце ўсё-ткі:*
*Адраджэнцы, пад вамі падмурак,*
*Што вякамі закладвалі продкі.*

*Хлебадайныя адраджэнцы,*
*Вас прадоўжаць і дзеці і ўнукі.*
*Возьме Лета вас, адрачэнцы,*
*У абдымкі свае бяз прынукі.*

*«Літаратура і Мастацтва, 20.X.95*

# «У МЕНСКУ — ТЫРАН СТАРОЙ ШКОЛЫ»

Пад гэткім загалоўкам газэта «Вашынгтон Таймс» апублікавала артыкул Адрыяна Каратніцкага, дырэктара праваабарончай арганізацыі «Фрыдам Гаўз» (Дом Свабоды), якая знаходзіцца ў Нью-Ёрку. Артыкул зьявіўся ў нумары за 24 кастрычніка. Якраз у гэты дзень папаўдні прэзыдэнт Лукашэнка выступаў перад аўдыторыяй (каля 40 чалавек) у ньюёркскай Радзе Замежных Дачыненьняў (дзе, як мы даведаліся, беларускі прэзыдэнт «нахабна хлусіў пра сапраўднае палажэньне на Беларусі).

Пасьля трохдзённага побыту ў Нью-Ёрку Лукашэнка падаўся ў Дэтройт і Чыкага на сустрэчы з амэрыканскімі бізнэсмэнамі.

У артыкуле Каратніцкага падаюцца факты пра ўсе Лукашэнкавы выхадкі апошніх месяцаў: пабіцьцё парлямэнтарыяў, заціск прэсы, гісторыю з экзаменамі і падручнікамі, беспадстаўныя абінавачваньні польскае «Салідарнасьці» ў інсьпіраваньні менскае забастоўкі, ваеншыну ды састрэленьне амэрыканскага паветранага балёну. Артыкул канчаецца словамі:

«Цяпер гэты клімат бязглуздзя заразіў беларускія ўзброеныя сілы. І пасьля састрэленьня бязьвінных амэрыканцаў Лукашэнкава ірацыянальная тыранія сталася і нашай праблемай. У часе, калі ён сустракаецца з кіраўнікамі амэрыканскага бізнэсу, выступае перад экспэртамі замежнае палітыкі і прамаўляе на Генэральнай Асамблеі ААН у атмасфэры ветлівага дабрадушша, мы павінна ўсе памятаць, кім ёсьць беларускі прэзыдэнт у сапраўднасьці».

# ПАДАРОЖЖА НА ПОЎНАЧ БЕЛАРУСІ

Восеньская нашая паездка ў Беларусь хоць і плянавалася крыху раней, аднак ужыцьцявілася неяк спантанічна, безь вялікіх зьбіраньняў і развагаў.

А для паездкі было некалькі прычынаў. Самая галоўная, і якая ўжо была на прыкмеце больш за год, гэта, што маёй роднай цёці, старэйшай сястры майго бацькі, спаўнялася сёлета ў верасьні 100 гадоў. Другая задума й прычына падарожжа выйшла ў часе пабыту у Злучаных Штатах Уладзімера Арлова, які запрапанаваў экскурсію на Полаччыну і ў Віцебск, тым больш, што ў Новаполацку якраз мелі адбывацца Скарынаўскія чытаньні. Ну, і яшчэ што нарэшце нас пераканала на паездку (ужо другую сёлета) у Беларусь — гэта запросіны на канфэрэнцыю Беларускага ПЭН-цэнтру.



*Уладзімір Арлоў (зьлева) і Вітаўт Кіпель каля Барысавага каменя пры Сафійскім саборы ў Полацку*

Вось-жа пра нашае такое памятнае падарожжа на Полаччыну й Віцебшчыну хочацца падзяліцца ўражаньнямі.

Адразу-ж пасьля канфэрэнцыі ПЭН-цэнтру ў Ісьлачы, у панядзелак 4 верасьня паехалі мы ў Новаполацак. Ехалася выгодна ў невялічкім аўтобусіку ў прыемнай кампаніі сп.сп. Адама Мальдзіса, Алеся Баршчэўскага і Вячаслава Чамярыцкага, з гутаркамі, разважаньнямі й жартамі. Любаваліся прыгожымі, ужо восеньскімі, краявідамі Лагойшчыны, Бярэзінскага запаведніка, Полацкімі вазёрамі, і час праляцеў, як страла. Каля Бягомля затрымаліся на адпачынак, купілі пры дарозе ў жанчынаў яблыкаў.

У Новаполацак прыехалі ўжо пад вечар і ўладкаваліся ў выгоднай гасьцініцы «Беларусь» недалёка ад унівэрсытэту, дзе мелі адбывацца чытаньні. Вечарам сп. Баршчэўскі наладзіў прыемны пачастунак у сваім пакоі, бо сталоўкі былі ўжо зачыненыя.

Наступны дзень, аўторак, быў адведзены канфэрэнцыі, а ўжо ў сераду 6-га верасьня з нашым слаўным гідам і знаўцам гісторыі Полаччыны Уладзімерам Арловым (ці-ж можна лепшага жадаць і спадзявацца?) мелі экскурсію ў Полацак. Гэта было сапраўды падарожжа ў мінуўшчыну, у нашую слаўную мінуўшчыну. А возьнікам-шофэрам у гэтае мінулае быў полацкі мастак Сяргей Цімохаў, студыю якога мы мелі прыемнасьць пазьней наведаць і нават набыць пару абразоў.

Пачалі мы зь месца старажытнага Полацку, з Гарадзішча 9-10-га ст. над Палатою, дзе жылі Рагвалод і Рагнеда. Цяпер там толькі мэмарыяльны слуп і нейкае магічнае адчуваньне далёкай мінуўшчыны, навеянае, магчыма, нашым агульным настроем. Верхні Замак, адноўлены палачанамі пасьля зьнішчэньня яго ў канцы 10-га ст. князем Уладзімерам, ненавісным мужам Рагнеды.

Крочым далей у гісторыю, фактычна блізімся да сучаснасьці. Перад намі цуда — Сафійскі сабор, пабудаваны Ўсяславам Чарадзеем у 11-м стагодзьдзі. Адноўлены ў 18-м ст. з захаваньнем рэштказ старажытнага. Цяпер там канцэртная заля і музэйныя экспанаты — службы не адбываюцца.

Непадалёку сабору адзін са славутых Барысавых камянёў 12-га ст., перанесены сюды нядаўна з рэчышча Дзьвіны, за некалькі кілёмэтраў ад Полацку. Спусьціўшыся крыху пад рэчку і праз падвешаны хісткі масток можна прайсьці да былога Ніжняга замку.

Адарваліся крыху ад гістарычнай хранaлёгіі і наведалі Краязнаўчы музэй, які месьціцца ў калішняй лютэранскай кірсе.

Вялікае ўражаньне зрабіў на нас наступны музэй, Музэй беларускага кнігадрукаваньня, дзе прывітала нас загадчыца Галіна Ладзісава. Там-жа месьціцца і музэй-бібліятэка Сымона Полацкага. Абодвы музэі параўнаўча новыя, але прафэсійна і зь вялікім навуковым і мастацкім уменьнем наладжаныя. А ў бібліятэчным пакоі, удэкараваным на манер старой кнігоўні, так і хацелася затрымацца і папрацаваць.

Тут-жа каля музэю кавярня «Брадчына», дзе як-бы зноў папалі ў гісторыю, папалуднавалі — пасмакавалі нязвыклую страву, «Пільмені па-полацку».

Падкрапіўшыся, пайшлі пад помнік Скарыны, пастаўлены яшчэ тады, калі яго там прынята было называць Францыскам-Георгіем. Цяпер, праўда, памылковую мянушку Георгій зьнялі, але месца ад імя засталося пустым. Добра было-б, каб на гэтае пустое месца паставілі скарынаўскі знак сонца-месяца, бо нейкі ўслужны псэўданавуковец зноў можа аднавіць «Георгія».

Наведалі гэтаксама адну зь цікавых (асабліва для Вітаўта) мясьцінаў Полацку — Езуіцкі калегіюм, дзе некалі ў 19-м ст. выкладаў айцец Францішак Дзяружынскі, які пазьней эміграваў у Амэрыку. Цяпер, як нас інфармаваў рэктар Новаполацкага ўнівэрсытэту Э. Бабенка, вядуцца перамовы, каб атрымаць гэты камплекс для Полацкай філіі ўнівэрсытэту.

Закончылася нашая полацкая вандроўка ў Спаса-Еўфрасіньнеўскім манастыры, дзе цяпер мастакі-рэстаўратары аднаўляюць фрэскі 12-га ст., а тады жыла ў кельлі-галубніцы, малілася й перапісвала кнігі Еўфрасіньня Полацкая, нашчадніца Рагнеды, унучка Ўсяслава Чарадзея, і дзе й цяпер перахоўваюцца яе сьвятыя мошчы.

Увечары адбылася сустрэча з новаполацкім беларускім актывам, наладжаная Цэнтрам Нацыянальнай Культуры, якім кіруе пісьменьніца Ірэна Жарнасек. Сустрэча гэтая з выкладчыкамі, студэнтамі, журналістамі адбылася ў аднэй з гарадзкіх бібліятэкаў, і мы мелі нагоду расказаць навапалачанам пра жыцьцё і працу беларускай грамады ў Амэрыцы. А пазьней за бясeдай мелі прыемнасьць паслухаць мясцовага барда Алега Паўлёнка ды мілагучныя сьпевы Людзьмілы Касьянавай, загадчыцы гарадзкога аддзелу культуры.

Гасьціла нас у Новаполацку Ўладзімерава сястра Таня Арлова. У яе ўтульнай выгоднай кватэры чуліся як дома.

Наступны дзень, 7 верасьня, прайшоў у Віцебску ў мілай кампаніі полацкага паэты Навума Гальпяровіча і ягонага сына Максіма.

У адрозьненьне ад Полацку, Віцебск не пакінуў такога моцнага ўражаньня. Ад старога Віцебску амаль нічога не засталося. Гісторыя неяк зацерлася, загубілася. Ратуша 18-га ст. — адзін зь нешматлікіх будынкаў, які яшчэ захаваўся, ды яшчэ можа былы Палац Губэрнатара, дзе ў 1812 годзе пабываў і Напалеон, ды парк вакол яго. Праўда, аднаўляецца Дабравешчанская царква 12-га ст., якая была зруйнаваная на пачатку 1960-х гадоў. Ня ў войнах ці пажарах праз стагодзьдзі, а ў «мірны» нібы час, у 60-х гадох нашага стагодзьдзя!

Па шагалаўскіх мясьцінах гідам нашым быў Давід Сімановіч. Пабачылі мы домік на вуліцы Пакроўскай, дзе жыў Шагал, помнік яму на плошчы Шагала, шагалаўскі музэй.

А гідам нашым на Віцебску была мілая і дзейная Ларыса Міхневіч з Мастацкага музэю. У музэі мы пабачылі цудоўную выставу абразоў Пэна — гэта самая багатая калекцыя віцебскага мастака, аб якім нам так выдатна апавяла Ганна Бебрына.

Цікавы і прыемны прыпынак быў у ўнікальным Беларускім тэатры «Лялька», дзе адбываюцца спэктаклі лялькаў выключна па-беларуску для дзяцей. У гэты дзень спэктаклю ня было, але паказалі нам аўтэнтычную беларускую батлейку.

На заканчэньне нашага пабыту ў Віцебску, Ларыса Міхневіч павезла нас да мясцовага разьбяра Хведара Максімава, у маленькай кватэры якога сапраўдны музэй народнага разьбярства — ён ні з аднэй са сваіх працаў за ўсе свае 80 з гаком гадоў не разлучыўся.

У пятніцу 8 верасьня — на Глыбоччыну, у Лужкі, якія ад Полацку ня так далёка, да Цёці Нюты, майго кузына Вінцэнта і ўсёй радні. Па дарозе ў Лужкі заехалі яшчэ ў Вялец і затрымаліся каля хаты, дзе нарадзіліся ў 1895 годзе Цёця Нюта, а ў 1897-м Лявон Савёнак. У хаце ніхто ўжо ня жыве, але хата стаіць і даволі моцная яшчэ. Зрабіла здымкі. Цёця Нюта выняткова здаровая, бадзёрая, усім цікавіцца, усё ведае, усё памятае. Правялі мы зь імі прыемны спакойны дзень, пагаварылі, паўспаміналі, пераважна пра майго папу Лявона Савёнка, бо заўтра ўжо некалі — будзе ўрачыстае сьвяткаваньне 100-х угодкаў Цёці.



*Зора і Вітаўт Кіпелі са 100-гадовай Цёцяй Нютай Ярахновіч*

Зьехалася ўся сям'я, родзічы, бліжэйшыя сябры й суседзі. Было сапраўды ўрачыстае сямейнае сьвята.

Да ўрачыстасьці дадала яшчэ прысутнасьць паэткі-журналісткі, нашай дарагой знаёмай Вольгі Іпатавай, якая якраз-жа была ў сваім хутары на адпачынку са сваім мужам Ягорам, і яны былі ласкавыя прыехаць пазнаёміцца зь Юбіляркай, зрабіць здымкі і рэпартаж. Вольга тут-жа за сьвяточным сталом напісала цудоўны верш, прысьвечаны Цёці.

Прыехалі на сьвяткаваньне і Ўладзімер і Тацьцяна — гэта быў знак, што нам трэба ўжо ехаць назад у Полацак, а тады адразу-ж у Менск, а ўжо пазаўтра й дахаты. Зрабілі яшчэ супольны здымак, напакаваў Вінцэнт нам яблыкаў са свайго саду, хатніх кілбасаў і ... паехалі.

**Зора Кіпель**

## ЦІ БЕЛРУСЬ ЯШЧЭ ЎСЁ «НЭЎТРАЛЬНАЯ»?

У сваёй прамове на Генэральнай Асамблеі ААН 25 верасьня сёлета міністар замежных справаў РБ Уладзімір Сянько, гаворачы пра раззброеньне і «бязьядзерны статус» Беларусі, ні словам не абмовіўся пра «нэўтралітэт», хоць нэўтралітэт краіны абвешчаны і ў Дэклярацыі дзяржаўнага сувэрэнітэту ад 27 ліпеня 1990 г., і ў Канстытуцыі. Папярэднік Сянька на становішчы міністра замежных спраў Беларусі, Пётр Краўчанка, у сваіх выступленьнях на Генэральных Асамблеях ААН 1992 і 1993 гадоў кожны раз нагадваў, што Беларусь — нэўтральная дзяржава. Але тады Аляксандар Лукашэнка яшчэ ня быў аўтакратычным прэзыдэнтам рэспублікі, якога не забавязвае ні Дэклярацыя сувэрэнітэту, ні Канстытуцыя.

ЗВАРОТ

## БЕЛАРУСАМ СЬВЕТУ

Дарагія браты і сёстры! Ужо два гады існуе наша жаночая арганізацыя, якую стварылі вядомыя ў Беларусі і за яе межамі жанчыны-пісьменніцы, лекары, журналісты, работніцы, вучоныя. Імя сьвятой Еўфрасіньні яднае нашы сілы і дае моц у справе Беларушчыны. Упяршыню на Беларусі імя сьвятой шырока і вольна загучала менавіта на беларускай мове, зь ініцыятывы беларускай інтэлігенцыі. Гэта выклікала незадаволенасьць пэўных колаў, якія пачалі адразу-ж ствараць розныя клюбы і цэнтры імя сьвятой Еўфрасіньні дзеля таго, каб праводзіць свае мэты. А гэта дзьве задачы: 1. Адцягваць на сябе матэрыяльныя сродкі, якія некаторыя дзелавыя людзі гатовы ахвяраць сьвятой справе. 2. Самае важнае тое, што гэтыя новыя арганізацыі маюць выразную прамаскоўскую арыентацыю: і на Беларусі праводзяць палітыку русыфікатарства, асабліва ў асяродку моладзі і дзяцей. Небясьпечна і тое, што пад знакам імені сьвятой Еўфрасіньні Полацкай палітыка русыфікатарства мае яшчэ і камуністычнае адценьне. Беларусь перажывае цяжкі момант адрачэньня ад роднае мовы, ад роднае культуры. І гэта выкарыстоўваюць нашы ворагі, тыя, хто скарыстоўвае сьвятое імя Еўфрасіньні ў справе насаджэньня нашаму народу сваіх камуністычных ідэй, сваіх маскоўскіх плянаў. Адна з такіх арганізацый — «Православный просветительский центр имени преподобной Ефросиньи Полоцкой». Гэты цэнтр створаны якраз насуперак нашаму фонду і мае вялікую падтрымку епархіі, Масквы і іншых афіцыйных структур.

Дарагія браты і сёстры! Мы ня збіраемся моўчкі сузіраць на справу гвалтаваньня Бацькаўшчыны. Таму і запрашаем усіх да супрацоўніцтва і падтрымкі. Па-першае. Запрашаем усіх жадаючых сьведамых беларусак уступіць у наш фонд, каб у хуткім часе ён ператварыўся у моцную міжнародную арганізацыю.

Пасьля ганебнага гвалтоўнага рэфэрэндуму, на якім некаторыя несьвядомыя, падманутыя людзі адмовіліся ад уласнае радзімы-маці, на Беларусі вельмі актыўна пачалі дзейнічаць камуністычныя жаночыя асяродкі, якія хочуць сабраць вакол сябе жанчын Беларусі і накіраваць іх па старым шляху расейшчыны.

Аднак пакуль існуе жаночны фонд сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, гэтая палітыка жаночага русыфікатарства будзе атрымліваць моцнае супрацьдзеяньне. Таму зьвяртаюся да беларусак сьвету з прапановай пачаць стварэньне моцнай беларускай жаночай арганізацыі ў імя сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Для гэтага чакаю ад усіх жадаючых заявы з просьбаю прыняць у сябры фонду з указаньнем асабістага адрасу і роду заняткаў. Форма заявы адвольная. (Упраўе фонду Еўфрасіньні П.)

У нас ужо ёсьць вельмі многа сябровак у Літве, Латвіі, на Ўкраіне, у Баўгарыі. Вельмі важна ў гэтым сэнсе стварэньне філіялаў фонду ў розных краінах. І такое абавязкова будзе!

Адна з бліжэйшых задач — правядзеньне Ўсебеларускага жаночага Форуму, на якім сустрэнуцца беларускі з розных куточкаў сьвету, з усяе Беларусі. Цяпер мы пачынаем падрыхтоўку да гэтай справы, якая вымагае ня толькі многа сілы і клопату, але і матэрыяльных сродкаў. Будзем рады матэрыяльнай і маральнай падтрымцы, асабліва ў справе ўтварэньня ўласнага выдавецтва. Калі-б мы маглі стварыць сваё выдавецтва, то справа беларускай культуры і асьветы мела-б моцны грунт. Жанчыны Беларусі павінны сказаць сваё важкае моцнае слова ў абарону роднай Бацькаўшчыны, у абарону нашага мінулага і нашай будучыні. Таму зьвяртаюся да усіх:

Дарагая моладзь! Вашы генетычныя карані заўсёды будуць наталяцца сокамі зямлі Беларускай! Мы заўсёды будзем рады кантактам з Вамі!

Шаноўная ЦАРКВА! Няхай імя сьвятой Еўфрасіньні Полацкай лучыць нашы сэрцы і думкі ў малітве за родную Беларусь. Мы прасілі-б свае позіркі скіраваць не на тыя арганізацыі, якія ніколі не будуць спрыяць справе адраджэньня пад маскай хлусьлівага патрыятызму, а на справу адраджэньня беларускага жаночага сястрынства. Мы будзем рады атрымаць падтрымку і спрыяньне.

Дарагія мужчыны! Найперш ад Вас чакаем мы падмогі беларускім жанчынам. Бо мы — Вашы жонкі, вашы сёстры, вашы дочкі і, вядома-ж, вашы МАЦІ, якія заўсёды будуць рады моцнай падтрымцы!

Не аддамо Беларусь, не аддамо на апляваньне родную Бацькаўшчыну.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Прэзыдэнт фонду
сьвятой Еўфрасіньні Полацкай
**ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН**
(Новік Валянціна Міхайлаўна)

### У МЕНСКУ АБ ДЗЕЙНАСЬЦІ БІНіМу

У панядзелак 11 верасьня ў Доме літаратара ў Менску адбылася сустрэча д-ра Вітаўта Кіпеля й сп-ні Зоры Кіпель з творчай інтэлігенцыяй сталіцы. Сустрэча была арганізаваная Міжнародным фондам «Беларускі Кнігазбор» ды Саюзам пісьменьнікаў Беларусі з мэтай прэзэнтацыі гасьцямі бібліятэцы Дому літаратара выданьняў ньюёркскага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды друкаў іншых эмігранцкіх выдавецтваў. Аднак прэзэнтацыя ператварылася ў даклад гасьцей аб дзейнасьці ды гісторыі БІНіМу, а таксама творчай і выдавецкай дзейнасьці эміграцыі. Сустрэча была жвавая, цёплая і зьместоўная. Дакладчыкі мелі магчымасьць сустрэцца ды абмяняцца думкамі з даўнымі знаёмымі-прыяцелямі, як спадарства Генадзь і Юля Бураўкіны, Пётра Краўчанка ды супрацоўнікамі ў Менску Адамам Мальдзісам, Нілам Гілевічам, Ганнай Сурмач, Яўгенам Лецкам, Валянцінай Коўтун і іншымі. Адміністратарамі-кіраўнікамі сустрэчы былі паэт Кастусь Цьвірка і сп. Генадзь Вінярскі.

## ДРУГАЯ ГАДАВАЯ МІЖНАРОДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРУ



*На канфэрэнцыі ў «Ісламы» (зьлева): Юры Хадыка, Зора Кіпель, Васіль Быкаў, Вітаўт Кіпель, Зьміцер Бугаёў, Адам Мальдзіс, Уладзімір Конан. Фота Ўладзіміра Кармілкіна.*

Канфэрэнцыя праходзіла ад 31 жніўня да 4 верасьня ў Доме творчасьці пісьменьнікаў «Ісьлач» каля мястэчка Ракава. Тэма сёлетняе канфэрэнцыі была: «Незалежная прэса: свабода і адказнасьць». Сп. Васіль Быкаў, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру, адчыняючы канфэрэнцыю, адзначыў, што за леташні год у рэспубліцы адбыліся паважныя зьмены на горшае палітычнага клімату, а дзеля гэтага скліканьне канфэрэнцыі вельмі сваечасовае. Пісьменьнік таксама адзначыў, што відавочны наступ на сродкі масавай інфармацыі як і на свабоду выяўленьня творчае думкі ды глыбака прааналізаваў магчымы адмоўны ўплыў пануючае сёньня «маскультуры» ня толькі на інтэлектуальную творчасьць, але наагул на разьвіцьцё дэмакратычнага грамадзтва.

На канфэрэнцыі было прадстаўлена больш за сотню дакладаў, якія шырака групаваліся ў тэмы: цэнзура і сродкі інфармацыі, сёньняшні стан цэнзуры ў рэспубліцы, крокі цяперашняе адміністрацыі ў манапалізаваньні сродкаў масавае інфармацыі, адсутнасьць і патрэба ўдасканаленага заканадаўства ў дачыненьні да прэсы й творчасьці, разбудова незалежнае прэсы, розныя гістарычныя аспэкты разьвіцьця беларускага друку.

На канфэрэнцыі былі прадстаўнікі з больш як дзесяцёх дзяржаваў. З ЗША ў канфэрэнцыі бралі ўдзел і выступілі з дакладамі сп-ня Зора Кіпель і Вітаўт Кіпель.

На канфэрэнцыі былі выпрацаваныя дакумэнты: «Дэклярацыя Другога міжнароднага кангрэсу Беларускага ПЭН-цэнтру ў абарону перад наступам на культуру і дэмакратыю антыбеларускіх і антыдэмакратычных колаў у Рэспубліцы Беларусь»; рэзалюцыі: «Аб разуменьні сувэрэннасьці дзяржавы й асобы», «Аб свабодзе й адказнасьці сродкаў масавай інфармацыі». Кангрэс выказаў таксама свае пагляды на рэфэрэндум 14 траўня сёлета.

Кангрэс узнагародзіў новай літаратурнай прэміяй імя Алеся Адамовіча Анатоле Казловіча за літаратурную публіцыстыку, Паўла Шарамета за тэлежурналістыку, Самсона Палякова і Ўладзімера Алая за кінадакумэнталістыку, Валянціна Жданка і Віталя Цыганкова за цыкль аналітычных артыкулаў у газэтах «Зьвязда» і «Свабода».

Фундатарам канфэрэнцыі быў Беларускі Фонд Сораса.

### СКАРЫНАЎСКІЯ ЧЫТАНЬНІ Ў ПОЛАЦКУ

Сёлетнія чытаньні былі спалучаныя зь міжнароднай навуковай канфэрэнцыяй «Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзьнікненьня і разьвіцьця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасьці». Адбыліся яны 5-6 верасьня. Арганізатарамі гэтае акадэмічнае падзеі былі Полацкі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік і Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Францыска Скарыны. На канфэрэнцыю прыбылі дасьледнікі зь Нямеччыны, Англіі, Расеі, Польшчы; са Злучаных Штатаў Амэрыкі ўдзел у канфэрэнцыі бралі Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель.

Даклады, каля сотні, чыталіся ў такіх сэкцыях як: Беларуская дзяржаўнасьць і эўрапейская супольнасьць; Полацкая зямля як цэнтар узьнікненьня й разьвіцьця беларускага этнасу і дзяржаўнасьці; Хрысьціянскія традыцыі на Полаччыне; Няўміручая спадчына (пераважна скарыназнаўства); Выдатныя палачане; Культурныя традыцыі Полаччыны і іншыя.

Паколькі канфэрэнцыя адбывалася на тэрыторыі ўнівэрсытэту ды быў гэта пачатак навучальнага году, у канфэрэнцыі брала ўдзел вялікая колькасьць маладых навукоўцаў, пераважна Полацкага ўнівэрсытэту. Было таксама ладна дасьледнікаў малодшага пакаленьня зь іншых навучальных і навуковых установаў рэспублікі. У часе канфэрэнцыі адбываліся таксама канцэрты, выстаўкі ды колькі экскурсіяў па выдатных мясьцінах Полацку і ваколіцаў.

Шчыра вітаем пісьменьніка, рэдактара і актыўнага грамадзкага дзеяча

**МІХАСЯ КАВЫЛЯ**

з 80-мі ўгодкамі жыцьця, якія споўняцца 1 лістапада 1995 г., ды жадаем добрага здароўя і памыснасьці ў далейшым жыцьці і працы.

*Управа Беларускага Інстытуту*
*Навукі й Мастацтва*
*Рэдакцыя газэты «Беларус».*
*Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*

Шчыра вітаем пісьменьніка, рэдактара і актыўнага грамадзкага дзеяча

**КАСТУСЯ АКУЛУ**

зь 70-мі ўгодкамі жыцьця, што споўняцца 15 лістапада 1995 г., ды жадаем добрага здароўя і памыснасьці ў далейшым жыцьці і працы.

*Управа Беларускага Інстытуту*
*Навукі й Мастацтва*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*
*Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*

# ЛУКАШЭНКАЎЦЫ ЗМАГАЮЦЦА З СБМ

*(Заканчэньне; пачатак у № 426)*

Аўтар артыкулаў у «Советской Белоруссии» піша, што такой агалцелай ідэалягічнай апрацоўцы, як у СБМ, не падлягала ніводная катэгорыя насельніцтва Беларусі. Юнакам СБМ у веку 12 гадоў павінны былі чытаць лекцыі ці даклады на такія мудрагелістыя тэмы, як «Чаму жыды і бальшавікі зьяўляюцца нашымі сьмяротнымі ворагамі?», а 14-гадовым юнакам: «Чаму мы ня хочам БССР і чаму бальшавікі і савецкая ўлада зьяўляюцца ворагамі беларускага народу?» альбо: «Чаму мы павінны супрацоўнічаць зь Нямеччынай?». Ды такія пытанні нашы бацькі не абмяркоўвалі, ня тое што дзеці! Дык што мы чытаем: сур'ёзную газэту «Советская Белоруссия» ці сьмяшлівы «Вожык»?

Мо ў Менску кіраўніцтва СБМ і плянавала падобныя гутаркі з моладзьдзю, але каму, як ня былым савецкім людзям ведаць, як на месцы выконваюцца пляны і праграмы? І вось сур'ёзныя быццам-бы людзі пішуць, што за нейкага паўгоду, калі ўжо тыя СБМаўскія дружыны арганізавалі на месцах, так ачмурылі тых юнакоў прапагандаю, што савецкай уладзе трэба было іх баяцца. Няўжо за паўгоду пераплюнулі ранейшае шматгадовае ідэалягічнае ачмурэнне рэзэрву партыі? І ўвогуле, шмат з таго, аб чым піша аўтар «дасьледваньня» выклікае толькі ўсьмешку. Ну, што давала немцам клятва дзесяці-дванаццацігадовага юнака аб вернасьці фюрэру? Няўжо немцы такімі дурнямі былі, каб верыць палітычнай клятве дзяцігі? Мы ведаем, што шмат чырвонаармейцаў ня выканалі сваю піянерскую клятву «К борьбе за дело Ленина будьте готовы! — Всегда готовы!» на пачатку вайны. Дык якое значэньне яна магла мець увогуле, каб аб ёй усур'ёз пісаць? Але такой клятвы ня было, яна ня мела сэнсу на зямлі Беларусі. Але-ж у разуменьні таварыша Бадуліна не маглі юнакі СБМ ня клясьціся фюрэру, раз піянеры Леніну кляліся. А арганізацыі тоесныя, таталітарныя. Значыцца, і клятва фюрэру павінна была быць, і ўсё тут!

Але адкуль аўтар бярэ падобныя факты для сваей публікацыі?

Ёсьць у Менску такая заідэалягізованая ўстанова, якую называюць музэем Вялікай Айчыннай вайны. Створаная дзеля выхаваньня ненавісьці да гітлераўскіх захопнікаў, яна дае выключна аднабокі рысунак змаганьня беларускага народу падчас вайны. Там ёсьць копіі нямецкіх здымкаў павешаных у сквэрах партызан, ёсьць здымкі з партызанскага жыцьця, сьвятаў, арганізаваных акупантамі, дзе белчырвона-белыя сьцягі вісяць побач зь нямецкімі сьцягамі са свастыкаю. Але дарэмна ў тым музэі шукаць здымкаў аб тым, хто і як расстрэльваў тых «панікёраў», якія, згубіўшы ў баях свае часткі, беглі ўсё-ж не на захад у палон, а пад Маскву, ці хоць адзін здымак з баёў так званых штрафных батальёнаў, калі чырвонаармейцы, якіх бальшавіцкая ўлада палічыла вінаватымі парад ёю, ішлі ў атаку практычна з аднымі кулакамі. А Масква паказвае дакумэнтальныя кінастужкі аб гэтых падзеях вайны, толькі вось дырэкцыя гэтага менскага музэю ніяк не стараецца дастаць здымкі з такіх кадраў. Ну, як дапусьціць, каб у тым музэі бараць-бы былі здымкі з дакумэнтальных стужак аб сяброўстве тых-жа фашыстаў з бальшавікамі: тых самых карт падзелу Эўропы паводле пакту Рыбэнтропа-Молатава, якія і разьвязалі рукі Гітлеру дзеля агрэсіі на Польшчу, што і пачало другую сусьветную вайну. Альбо здымкі з сумеснага параду фашысцкай і Чырвонай арміяў у Брэсьце з нагоды перамогі над палякамі.

Вось у нястачы аб'ектыўнасьці ў такіх установах — прычына і магчымасьць такіх заказных «дасьледваньняў», якія разьдзяляюць наша грамадзтва дагэтуль на «чыстых» і «нячыстых», дастойных даверу (безумоўна, былыя камуністы і камсамольцы) і дастойных толькі пагарды (бязумоўна, былыя жаўнеры БКА, сябры СБМ і іншыя «фашысты», што выжылі нягледзячы на шматгадовыя бальшавіцкія зьдзекі). І да гэтых «фашыстаў» далучаюцца людзі, якім удалося пазьбегнуць караючай рукі «генераліссімуса», але якія змагаліся зь немцамі пад іншымі шыротамі. Вы ня знойдзеце ў гэтым музэі аніводнага здымку беларуса ў Італіі на амэрыканскім танку ці беларуса ў пясках Лівіі. Нават здымку магільніка пад Монтэ-Касына, дзе пахавана шмат беларусаў, у гэтым музэі няма, бо ён не беларускі, ён камуністычны! Карацей кажучы, там другой сусьветнай вайны няма, там толькі «Вялікая Айчынная» і перамога пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў. А высадка альянтаў на Сыцыліі, у Нармандыі — дробязь, аб якой і ўспамінаць ня сьлед. Але дробязей ў гісторыі няма і яна яшчэ ўзважыць на сваіх шалях дзеяньні юнакоў з СБМ і камсамолу. Аб'ектыўнае дасьледваньне яшчэ наперадзе, панове!

І нашчадкі рассудзяць! Упэўнены, што не на карысьць камсамолу!

**М. Бублікаў**

*З новых выданьняў*

## ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

У сэрыі «Школьная бібліятэка» выйшаў сёлета ў менскім выдавецтве «Юнацтва» 10-тысячным тыражом зборнік паэзіі і прозы беларускіх эміграцыйных пісьменьнікаў пад заг. (словы Масея Сяднёва) «А часу больш, як вечнасьць». Укладальнік кнігі (334 ст.) і аўтар прадмовы — сьв. пам. Барыс Сачанка.

«Паступова, быццам з далёкага выраю, — чытаем у прадмове, — вяртаецца на Бацькаўшчыну і беларускае замежжа, усё тое лепшае, што было створана там і што было схавана за сямю пячацямі, пра што не дазвалялася ня толькі гаварыць, а нават успамінаць. Лічылася-ж — калі чалавек жыве не на радзіме, не вяртаецца на яе — ён здраднік. А Радзімай быў Савецкі Саюз. Усё-ж, што па-за яго межамі, — варожае. У разьлік ня бралася, што межы Беларусі акрэсьліваліся не самімі беларусамі, а нашымі заваёўнікамі, што па волі лёсу і тых-жа заваёўнікаў мільёны беларусаў змушаны жыць на чужыне, сярод чужых. Ня ўсе, далёка ня ўсе яны перасталі быць беларусамі, многія зь іх не парываюць сувязі з родным краем, жывуць надзеяй вярнуцца на Бацькаўшчыну, робяць усё магчымае дзеля яе росквіту. У тых асяродках, што ўзьніклі ў ЗША, Канадзе, Англіі, Аўстраліі, Бэльгіі, Германіі, Францыі, Італіі — месцах вялікіх пасяленьняў беларусаў, — арганізаваліся культурна-асьветніцкія ўстановы, царкоўныя прыходы, школы, выходзяць газэты, часопісы, кнігі. Там, за межамі Беларусі, разьвіваецца навука, культура, літаратура».

У кнізе зьмешчаны вершы Н. Арсеньневай, В. Адважнага, А. Смаленца, А. Змагара, Р. Крушыны, Х. Ільляшэвіча, У. Дудзіцкага, Я. Золака, У. Клішэвіча, М. Сяднёва, А. Бярозкі, М. Кавыля, Ю. Юхнаўца, А. Салаўя, С. Ясеня ды проза Ю. Віцьбіча, М. Цэлеша, А. Саковіч, У. Глыбіннага, К. Акулы.

# *ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ 1995*

*(Працяг; пачатак у № 427)*

Выяжджаючы зь Менску, даведваемся ад гіда, што менская плошча Незалежнасьці — самая вялікая ў Эўропе. І чуем рэпліку: «Самая малая незалежнасьць на самай вялікай плошчы...»

За Менскам пачало дажджыць. Неба пагрозьліва насупілася. Чорна-сінія хмары нагадваюць палітычную атмасфэру ў краіне. Цешыш сябе выслоўем, што зь вялікай хмары малы дождж. Тымчасам Купрыяненкаў заліхвацкі баян і подсьвіст котаўскага цэляфанавага салаўя падтрымваюць бадзёры настрой. І запраўды, хмары разыйшліся, неба пасьвятлела. Раўнінную дарогу суправаджаюць паабапал частыя лясы. На іх сёлета ўскладзена вялікая надзея мясцовых людзей: ягады і грыбы сталіся важнай падтрымкай і ў дыеце, і ў бюджэце жыхароў беларускага краю. Лісічкі нарасхоп закупляюць польскія перакупшчыкі (9 даляраў за кілягram!) і перапрадваюць далей у Нямеччыну.

На ўскраінах мястэчак і гарадоў поўна новабудоўляў — дачы, катэджы, вільлі, нават маленькія палацыкі, з большай або меншай прэтэнзіяй на шык. Але пераважна стаяць толькі накрытыя пустыя сьцены з чорнымі вачніцамі вакон. Да канца гэтым будоўлям яшчэ вялікая дарога пры сучасным росьце цэнаў і агульным зьбядненьні.

**Мінуўшчына, але ня ўся**

У Слуцкім краязнаўчым музэі шмат цікавых экспанатаў, асабліва са старажытнага пэрыяду. Горад мае чым пахваліцца са свае далёкае мінуўшчыны. Былі тут некалі і багатыя заказчыкі і выдатныя майстры. Добра захаваны габэлен стагадовае даўнасьці выглядае гатовым перартываць яшчэ колькі стагодзьдзяў. Дырэктар музэю Валянціна Відлога радая наведнікам і гатовая, калі-б было больш часу, выкласьці ім усе дэталі і пэрыпэтыі гісторыі Случчыны — праўда, зь некаторымі цяжкасьцямі: пра Слуцкае паўстаньне 1920 году ніякіх першакрынічных экспанатаў няма, толькі нешматлікія копіі некаторых актаў. Ну, але й гэта ўжо нейкі крок наперад у музэйнай практыцы. Другая сусьветная вайна прадстаўленая багата (як і па ўсіх іншых краязнаўчых музэях, якія даваліся наведаць за час гэтага падарожжа) — зброя, уніформы, граматы, узнагароды і г.д. Затое сьляды сталінскіх рэпрэсіяў вельмі бледныя. Хоць у беларускім айчынным друку за апошнія гады было цімала апублікавана фактаў і дакумэнтаў пра генацыд і этнацыд у падсавецкай Беларусі, злачынствы сталінщаў у музэях не адлюстраваныя і не асэнсаваныя. У Слуцкім краязнаўчым зробленыя два невялічкія стэндзікі пра сталіншчыну, на якіх галоўную ілюстрацыйную ролю выконвае калючы дрот. Дрот гэты можа таксама сымбалізаваць і забарону сталінскай тэмы. Падобна, як у новым лукашэнкаўскім гэрбе контур ахопленае хамутом Беларусі сымбалізуе сабой цяперашнюю затхлую несвабоду.

*(Працяг на 7-й ст.)*

## BELARUSIAN REVIEW, VOL. 7, No. 3, FALL 1995

Багаты зьместам восеньскі нумар «Беларускага Агляду» (30 с.) прысьвячае шмат увагі пытаньню сувэрэнітэту і дэмакратыі Беларусі, а таксама драме з састрэленым амэрыканскім спартовым балёнам.

Цікавы аналіз беларускага «экспэрымэнту» з дэмакратыяй і заходняй палітыкі ў дачыненьні да Беларусі даў былы пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц. У «Аглядзе» зьмешчаны артыкул Рычарда Будро з газэты «Лёс-Анджэлес Таймс» пад заг. «Лідэр» (Лукашэнка) піхае Беларусь назад у Расею», а таксама артыкул праф. Дэвіда Марпэлса пад заг. «Лукашэнка адхіляе апошняга апазыцыянера (Ст. Багданкевіча)». Шмат празорлівасьці ў інтэрв'ю (пераклад якога зрабіў Юрка Станкевіч) Юрася Залоскі з Васілём Быкавым пад заг. «Дэмакратыя яшчэ ня здольная супрацьставіцца камунафашызму».

Загалоўкі іншых матар'ялаў: «Дэмакратычная апазыцыя шукае дапамогі ад амэрыканскага і расейскага лідэраў», «Уздым рэлігіі на Беларусі», «Эканоміка Беларусі». У рубрыцы «Фрагмэнты зь беларускай гісторыі» зьмешчаны урывак з артыкулу, апублікаванага ў «ЛіМе» (10.III.95) пра Радзівілаў (пераклад Ю. Станкевіча). Праксэда Сокал цікава апісвае выставку ў Беларусі абразоў мастачкі Ст. Тамары. Майкл С. Батура інфармуе чытага пра «партнэрства» паміж Нацыянальнай гвардыяй штату Юта і Рэспублікай Беларусь. У рубрыцы «Беларускае замежжа» зьмешчаны тэкст ліста старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі Расьціслава Завістовіча да прэзыдэнта Клінтана ў справе састрэленага ў Беларусі амэрыканскага балёну. Вельмі багаты разьдзел часапісу прысвечаны бягучым падзеям, што маюць дачыненьне да Беларусі.

Азнаямленьне з кніжкай брытанскай аўтаркі Анны Аплбаўм пра краіны Усходняй Эўропы, у тым ліку пра Беларусь, і лісты ў рэдакцыю завяршаюць багаты зьместам восеньскі нумар «Беларускага Агляду».

Падпіска на часапіс (30 даляраў на год) можа быць найлепшым падарункам для кожнага, хто хоча (або павінен, як прыкладам, Ваш кангрэсмэн ці сэнатар) быць паінфармаваны пра падзеі ў Беларусі. А дзеля гэтага падаём і адрас: Belarusian Review, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505. Fax: (310) 373-0793.

**Алесь Вініцкі. МАТАР'ЯЛЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ Ў 1939-1951 ГАДОХ.** Сэрыя «Бібліятэка беларускай дыяспары». Лёс-Анджэлес 1968 — Менск, выд. «Тэхналогія», 1994. 234 с.

У прадмове да зборніка Алесь Вініцкі (1891-1972) піша пра важнасьць беларускага жыцьця ў Нямеччыне: «Пэрыяд жыцьця беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадох быў вельмі багаты на розныя падзеі. Пакінуўшы Бацькаўшчыну, шматлікая беларуская палітычная эміграцыя мела на мэце сваёю працаю і на чужыне служыць свайму народу ды рэпрэзэнтаваць яго перад іншымі народамі. Дзеля рэалізацыі пастаўленае мэты былі створаны і розныя беларускія эміграцкія арганізацыі».

У ўступным слове да кнігі Ганна Сурмач, старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына», адзначае вартасьць дакумэнтальнае працы Алеся Вініцкага, які «здолеў сабраць і сыстэматызаваць дакумэнты і матэрыялы, каб пакінуць іх для гісторыі. Цяпер толькі, дзякуючы дагавору дачкі Вініцкага Ірэны з кіраўніком выдавецкай суполкі 'Тэхналогія' Вацлавам Багдановічам, гэта надзвычай патрэбая нам кніга даходзіць урэшце да шырокага чытача. Больш як 22 гады чакала яна свайго часу».

Др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМу, у сваім уступным слове выказвае спадзяваньне, што кніга «дапоўніць працы эміграцыйных дасьледнікаў» і паспрыяе справе далейшага вывучэньня на Бацькаўшчыне гісторыі беларускай эміграцыі.

## ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ

*(Заканчэньне з 6-й ст.)*

Цудоўна аформлены ў слуцкім музэі прыродазнаўчы аддзел. У ім бачыш, як шчодра абдарыла прырода беларускую зямлю. Каб-жа гэтае прыроднае багацьце ды людзі навучыліся выкарыстоўваць на агульнае дабро.

Па наведаньні выставачных залаў адбылася на пляцы перад музэем урачыстасьць спатыканьня гасьцей з караваем ды частаваньня іх песьнямі й танцамі. Юрку Наумчыку, як кіраўніку групы, прыгожыя дзяўчаты прыпаднесьлі на вышываным ручніку пахкі (а як пасьля ў аўтобусе выявілася, і вельмі смачны) каравай. Я сказаў колькі слоў падзякі і паясьненьня пра наша наведаньне Бацькаўшчыны. Танцавальна-песенны канцэрт апранутых у прыгожыя народныя строі случчакоў пад разьясьнелым ад дождыку небам стаўся для нас запраўдным духовым банкетам і ўзнагародаю за ўсе выдаткі даўгога падарожжа зь берагоў далёкае Амэрыкі і Канады да зямлі дарагіх продкаў ды багатых талентам і шчодрых душою сучасьнікаў.

**Янка Запруднік**

*(Працяг у наступным нумары)*

## ВЫСТАЎКА БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ У БРУКСЭЛІ

У чацьвер 14 верасьня сёлета беларускі пасол Уладзімір Лабуноў наладзіў прыняцьцё з нагоды адкрыцьця выставкі твораў, як сказана ў запрасінах, «таленавітых мастакоў Беларусі». Вэрнісаж адбыўся ў той самай аўдыторыі ў Бруксэлі, дзе прайшла выставка (ад 14 да 25 верасьня).

Выставку арганізавала аўстрыйская самалётная кампанія Austrian Airlines, якая паставіла за мэту памагаць мастаком Беларусі зь непрызнаным талентам і прадставіць іхныя творы аматарам мастацтва ў Бэльгіі.

На вэрнісаж прыбыло даволі шмат людзей. Удзельнікі вэрнісажу мелі нагоду агледзець выстаўленыя 24 творы мастакоў Аляксандра Дзьмідава і Аляксандра Вахрамеева. **Я.Ж.**

## У КАЛГАСНА-САЎГАСНАЙ БЕЛАРУСІ

*Брыгадзіры і даяркі,*
*Брагадзіркі і сьвінаркі,*
*А гармонік грае, грае.*
***Янка Купала***

Быўшы летам на Бацькаўшчыне, я пераканаўся, што наша Беларусь так і засталася калгасна-саўгаснай. Калгасы названыя імёнамі камуністычных галаварэзаў або ленінскімі лёзунгамі, што паказваюць шлях у пропасьць: імя Калініна, імя Дзяржынскага, «Бальшавікі», «Камунар», «XXIV зьезд КПСС» і да г.п.

Я таксама даведаўся, што падчас рэфэрэндуму ў траўні месяцы прыблуды Лукашэнкі хадзілі з урнаю і шантажавалі насельніцтва галасаваць за рэфэрэндум. Тыя, што адмовіліся, на наступны дзень былі ведамыя ўсім як бэнэфаўцы.

Падчас майго побыту Беларусь наведаў прэзыдэнт Украіны Кучма. Усюды, дзе выступалі прэзыдэнт Лукашэнка і прэзыдэнт Кучма, яны карысталіся толькі расейскай мовай. Сорамна было глядзець на гэтых янычараў.

Наведаў таксама Беларусь маскоўскі Патрыярх Аляксей, якога прэзыдэнт Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнам Францішка Скарыны — можа за тое, што праваслаўная царква дапамагла выйграць рэфэрэндум.

Наведаў Беларусь таксама Рыжкоў, былы прэм'ер Расеі, каб правесьці перамовы аб поўнай інтэграцыі Беларусі з Расеяй.

Па ўсёй Беларусі ідзе шалёнае будаўніцтва дачаў. Дзе на гэта бяруцца сродкі? Ці не будуюць гэтыя дачы тыя, што абакралі і абкрадаюць народ? Больш як па тры месяцы рабочыя не атрымліваюць зарплаты — недахоп грошай.

У кожнай цывілізаванай краіне той, хто нарадзіўся ў ёй, мае права атрымаць мэтрыку нараджэньня. Але ня ў нас на Беларусі. Я зайшоў у ЗАГС у Пінску і папрасіў, каб мне выдалі мэтрыку. Знайшлі рэестрацыйную кнігу парафіі, знайшлі маё прозьвішча і дзень і месяц нараджэньня, але мэтрыкі, сказалі, не дамо. Чаму? Бо вы жывяце ў Англіі. Прыкра. Беларусь цягнецца сто гадоў ззаду і кожны год ідзе дзесяць год узад.

**Хведар Кажаневіч**

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

### ПАЧАЛА ПРАЦАВАЦЬ СЫБОТНЯЯ ШКОЛКА

Пры беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры стараньнямі настаяцеля а. Мечаслава Брынкевіча пачаліся заняткі ў сыботняй школцы. Школку наведвае 14 дзяцей, якіх а. Мечаслаў навучае рэлігіі, і якія будуць таксама апаноўваць беларускую мову. Бацькі падтрымалі ініцыятыву настаяцеля. Дзеці ахвоча наведваюць заняткі.

**«ПОЛАЦАК», № 10(40), 64 с.**

У нумары: Слова да чытача Сьвятланы Белай, галоўнага рэдактара «Полацку»; Васіль Быкаў — Мэта і сродкі; Зварот клīўлендзкага аддзелу БАЗА, Культурнага грамадзкага цэнтру «Полацак», Жаночнага камітэту царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Клīўлендзе, рэдакцыі часапісу «Полацак» да беларусаў бліжняга і дальняга замежжа; Заклік Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі; Анатоль Старадарожскі — Роздум нестароньняга назіральніка IV зьезду БНФ «Адраджэньне»; Васіль Пуцько — Полацак у гісторыі старажытнарускага мастацтва; Арышт Вацлава Ластоўскага (з архіваў КДБ); Леанід Лыч — Эмігрантаў друкуюць у Беларусі; Уладзімір Гніламёдаў — Лепшая кніга 1994 году; Міхась Кавыль — З агню ды ў полымя; Алесь Марціновіч — «Сьніцца вецер з-над Нёмна, Лані...» (пра паэта А. Бярозку); «То ня дудка мая» (ноты); Сьвятлана Белая — Галінка ясьміну ад Ларысы Геніюш; Анатоль Белы — Помнік Ларысе Геніюш; З жыцьця эміграцыі; 80-годзьдзе Андрэя Стрэчыня; абесткі.

## «OCCASIONAL PAPERS IN BELARUSIAN STUDIES»

Пасьля даўжэйшага перарыву выхаду ў сьвет часапісу "The Journal of Byelorussian Studies" (апошні нумар — Volume 6, No. 1— выйшаў у 1988 г.), у Англіі зьявілася новае выданьне ў сэрыі "Occasional Papers in Belarusian Studies" No. 1, 1955. Укладальнікі і рэдактары яго — ведамыя навукоўцы Джэймс Дынглі і Арнольд Макмілін, выдавец — School of Slavonic and East European Studies, University of London.

У часапісе — артыкулы і кніжныя агляды: Du Feu, V.N. — "The Three Literary Languages of Belarus", Tylor, N. — "Belarusian Landscapes in the Novels of Tadeusz Konwicki"; Latyšonak, A. —"Students from the Grand Duchy of Lithuania before the Rectorial Court of Cracow University in the Years 1459-1536"; Saunders, D. — "-Nikolai Petrovich Rumiantsev and the Russian Discovery of Belarus"; Michnevich, A.E. — "Russkii iazyk v Belorussii" (M. Kirkwood); Alltbauer, M. — "The Five Biblical Scrolls in a Sixteenth-century Jewish translation into Belarusian" (Vilnius Codex 262) (P. Wexler).

На канцы зборніка — даведка пра аўтараў, пра заснаванае ў 1954 годзе The Anglo-Byelorussian Society і Беларускую Бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Англіі ды сьпіс выданьняў зь беларусікі, якія можна й у іх атрымаць.

Дзеля таго, што ад часу выхаду "JBS" грунтоўна зьмянілася палітычная сытуацыя, да супрацоўніцтва ў ім запрошаныя й навукоўцы зь Беларусі. Часапіс будзе шматмоўным. **Р. Ж-Г.**

**Увага! Увага!**

Асобы, якія дастаюць газэту «Беларус» ад сп. Браніслава Даніловіча, будуць яе атрымоўваць у далейшым ад сп. Сяргея Трыгубовіча. Да яго трэба будзе зьяртацца ў адміністрацыйных справах і выпісваць на ягонае прозьвішча чэкі з належнасьцяй за газэту і ахвяраваньнямі на яе. Адрас сп. Трыгубовіча наступны:

***Mr. S. Tryhubovich***
***40 Deerfield Rd., Somerset, N.J. 08873***

# СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ ЗУЙ



На 86-м годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць вялікі сын беларускае зямлі Міхась Зуй. Скончаўся ён на другі дзень праваслаўнай Пасхі, гэта значыць 24 красавіка, а пахавалі яго 1 травеня на праваслаўнаў дзялянцы могільніка ў горадзе Сыднэі. Абрад паховінаў выканаў а. Ігар Хлябіч. Гроб быў накрыты бел-чырвона-белым сьцягам, украшаны ўзнагародамі нябожчыка: трымя мэдалямі БКА і БЦР.

Ушанаваць пакойніка прыйшла вялікая грамада з Сыднэю ды іншых штатаў Аўстраліі, як прыкладам сябры з гораду Мэльбурну, нягледзячы на вялікую дарогу, аж 1000 км ад Сыднэю. Гэта доказ таго, што пакойны заслужыў на пашану сярод беларускіх патрыётаў, якія, не шкадуючы сілы, хоць самім па 70 год, а менавіта гэта сп-тва Я.Д. Стасэвічы, А.Т. Грыцукі ды аўтар гэтых радкоў з сужонкай, П.Т. Гуз, прыехалі самі і прывезьлі пышныя вянкі як ад сябе, гэтак і беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі: ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі ды Беларускага Нацыянальнага Фонду ў Вікторыі (горад Мэльбурн).

Пасьля адпяваньня, цела нябожчыка было перавезена на гарадзкія могілкі, дзе сябра з Мэльбурна Паўла Гуз зачытаў над магілай пакойнага кароткае слова пра ягоны жыцьцёвы шлях.

На памінальнам абедзе ў Беларускім Грамадзкім Доме ўдава зь дзецьмі зрабіла прыняцьцё, дзе ўся заля была напоўненая сябрамі і блізкімі ды дзе таксама прамаўлялі шчырым словам сп. Міхась Лужынскі і Міхась Ціхан.

Пасьля ўсе разьвіталіся зь сям'ей пакойнага: жонкай Рэняй, дачкою Нінай і сынам Алесем, які на просьбу а. Ігара і інжынера І. Лакцеева паабяцаў, што будзе памагаць беларусам Сыднэю ў іх грамадзкай працы.

І так, беларусы Аўстраліі згубілі яшчэ аднаго найвялікшага патрыёта, аб чым са смуткам паведамляюць усім асяродкам, дзе толькі жывуць беларусы. Ягонай сям'і ў Аўстраліі і на роднай Беларусі шлём вялікае спачуваньне.

**Паўлюк Гуз**

# АПАНТАНА МУЖНЫ ЗМАГАР

***(Прамова над магілай сьв. пам. Міхася Зуя)***

Дарагі сябра Міхась Зуй нарадзіўся 23.10.1909 г. у Дзісненскім павеце Віленскай губэрніі. Страціўшы бацьку, ён мусіў з маладых год пачынаць свой цярністы шлях жыцьця.

У 1932 годзе ён арганізаваў гурток вясковай моладзі, пачаў спатыкацца зь беларускай літаратурай, што і прывяло яго да перакананьня, што ён — сын беларускага народу са слаўнай мінуўшчынай.

У сваіх 16 год Міхась даў клятву, што будзе змагацца за свой шматпакутны народ. Да 1939 году ён належаў да хору, у якім сьпяваліся беларускія песьні і ставіліся п'есы беларускіх пісьменьнікаў, ды пашыраў сьведамасьць сярод людзей, каб як менш беларусы траплялі пад польскую асыміляцыю.

Сябры перасьцерагалі яго, што яму могуць прышыць лату камуніста ды што давядзецца скончыць Бярозай Картузкай. Але сіла, якая апанавала маладога патрыёта, не дала яму астанавіцца. У 1939 годзе прыходу бальшавіцкага «раю» Міхась Зуй уключаецца ў рады прапагандыстаў, каб дапамагчы сялянам, за што стала пільнаваць яго вока НКВД. Але ён не скарыўся. І так, пачалася вайна, настаў прыход другога «вызваліцеля». Міхась зноў не пакідае свайго народу, уступае ў рады Беларускай Народнай Самапомачы ў сваіх родных мясьцінах. За адданасьць справе аховы інтарэсаў свайго народу ён атрымаў у 1942 годзе намінацыю кіраўніка Шаркаўскага павету. Ратуючы людзей ад партызанаў і рознага зброду, ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі ў 1944 годзе ўсклаў на яго абавязак ехаць у родны Менск на нарады 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу.

28 чэрвеня 1944 г. Міхасю давялося пакідаць свае мілыя сэрцу мясьціны ды ехаць у няведамую дарогу шукаць ратунку. У Граеве (Польшча) разам з групай у 26 чалавек ён захацеў ехаць дэсантам на Беларусь ды памагаць свайму гаротнаму народу. Папаўшы да бальшавікоў, мусіў выкручвацца, але знайшоў мужнасьці ды ўцёк праз Польшчу ў Нямеччыну ў Амэрыканскую зону, а пасьля ў беларускі лягер Ватэнштэт, дзе, пагутарыўшы з афіцэрам ангельскай разьведкі, пакінуў Нямеччыну ды падаўся ў Аўстралію, стаўшы на аўстралійскую зямлю 9.10.1949 году.

Аўстралійская бясьпека затрымала яго на даўжэйшы час у лягеры Банегіла, але і тут ён не сядзіць склаўшы рукі, а неадкладна навязвае сувязь зь беларусамі, якія ўжо тут былі, ды бярэ актыўны ўдзел у наладжваньні беларускага нацыянальна-адраджэнскага жыцьця.

Мне давялося пазнаёміцца з гэтым загадкавым чалавекам па дарозе ў Аўстралію, у Італіі, а пасьля месяц на параходзе ды пару добрых тыдняў у Банегіле.

І вось на працягу 46-ці гадоў свайго жыцьця тут сярод нас ён не ўскладаў надзеі на каго-небудзь, а сам, ці то быў дзень ці ноч, ён ехаў, шукаў сваіх, дапамагаў як парадамі, гэтак, калі трэба было, то і фінансава, нягледзячы, што меў сем'ю. Яму ня было перашкод, калі ён ведаў, што гэта на карысьць яго роднай Беларусі.

Гэтае апантана мужнае змаганьне за «васількову Беларусь», як ён яе часта называў, за адраджэньне нацыянальнай годнасьці, за рэстаўрацыю духу і характару Народу было сэнсам ягонага жыцьця.

Сёньня, калі сілы рэакцыі і цемрашальства зноў вядуць наступ на нашы сьвятыні, на родную мову, культуру, а дэнацыяналізованае, зьнямелае і аглумленае грамадзтва ня здольнае ім супраціўляцца, нашае народнае апалчэньне страціла свайго выпрабаванага, загартованага, самаадданага і мужнага змагара.

Творчы і чалавечы талент пакойнага Міхася адзначаны тым, што на 19-м пленуме БЦРады ён выбіраецца ў Выканаўчы Камітэт як Прэзыдэнт БЦР ды ўзнагароджваецца трыма мэдалямі (Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне, Беларускай Краёвай Абароны і «Жыве Беларусь!»), а таксама дастае чын генэрала.

Сяньня цяжка разьвітвацца з добрым умелым кіраўніком, добрым сьціплым чалавекам. Такім ён застанецца ў сэрцах і памяці тых, з кім ён жыў, працаваў.

Закончу вось так словамі Міхася Кавыля:

*Сьпі пад суровым небам,*
*Небам ня родным, чужым,*
*Сьлёзаў няма — ня трэба.*
*Ты сярод нас — жывы.*

Дарагі сябра, хай табе будзе лёгкай аўстралійская зямелька ды сьніцца васількова каханая Беларусь.

Твае сябры схіляюць галовы над тваёй магілкай.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| А. Субота | 100 |
| В. Навіцкі | 50 |
| У. Машанскі | 50 |
| Я. Аўдзей (1996) | 50 |
| А. Шурак | 30 |
| М. Ханяўка | 30 |
| а. Я. Мол | 30 |
| В. Цярпіцкі | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| А. Крыштаповіч | 10 |
| Усяго | 410 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| М. і М. Махнач | ам. д. 100 |
| М.К. | 25 |
| Ю. Наумчык | 20 |
| С. Будкевіч | 20 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Аўстраліі Марыі Мароз:*

Замест кветак на магілу с.п. Веры Раецкай:

| | |
|---|---|
| М. і М. Мігал | аўс. д. 50 |
| Марыя Мароз | 50 |
| Алекс Мароз | 50 |
| Міхась Раецкі, стар. | 45 |
| Міхась Раецкі | 50 |
| Аўген Ніжнік | 50 |
| Анатоль Бразоўскі | 70 |
| Н. Кахановіч | 30 |
| Еўфрасіньня Дамброўская | 25 |
| В. Ласкевіч | 25 |
| (Неразборліва) | 20 |
| Бел. Аб'едн. з Зах. Аўст. | 169 |

*У памяць Юркі Сянькоўскага на Belarusian Review*

| | |
|---|---|
| Арсень Монід (Канада) | ам.д. 50 |

## АБВЕСТКА

Усе чытачы «Беларуса» ветліва запрашаюцца наведаць мастацкую выставу ў галерэі Віляноваўскага Унівэрсытэту пад заг.

*«ВОБРАЗЫ СА СТАРАЖЫТНЫХ СЬЦЕНАЎ»*

Малюнкі мастака Вадзіма Ўдавенкі зь Беларусі выкананыя тэхнікай бацікс.

Выстаўка будзе трываць ад 15 лістапада па 20 сьнежня сёлета.

Прыняцьце і сустрэча з мастаком адбудуцца ў нядзелю 19 лістапада ад 4-й да 6-й папаўдні.

*Даезд на месца выстаўкі:*

New Jersey Turnpike, Exit 6 to Pennsylvania Turnpike, Exit 25 A to Blue Route #476 South (to West Chester), Exit 5 to Route 30 East, go to Ithan Avenue, turn left and look on your left for Villanova Un. Church and *Connely Center*.

***Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паведамляе:***

Падрыхтаваныя да друку два наступныя тамы ў сэрыі «Беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі». Том сёмы ўлучае творы Юркі Віцьбіча, прысьвечаныя антыбальшавіцкім і антысавецкім паўстаньням на Беларусі, а ў восьмым томе зьмешчаныя недрукаваныя творы й параўнаўчы разгляд творчасьці У. Дудзіцкага, Хв. Ільляшэвіча, У. Клішэвіча і М. Вярбы (М. Сільвановіча). Рэдактар абодвух тамоў — Лявон Юрэвіч.

Прыймаецца падпіска (60 ам. дал.) і ахвяраваньні на выданьне гэтых прац.

Чэкі ці паштовыя пераказы слаць на адрас:

Belarusan Institute of Arts and Sciences, Inc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

Гэтаксама БІНіМ паведамляе, што знаходзіцца ў друку ды неўзабаве выйдзе 22-гі выпуск «Запісаў» БІНіМу, прысьвечаны 70-годзьдзю беларускага народнага пісьменьніка Васіля Быкава, пад рэдактарствам праф. Томаса Бэрда. Падпішчыкаў «Запісаў» просім урэгуляваць падпіску.

**Управа БІНіМу**

## АХВЯРАВАНЬНІ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМу

| | |
|---|---|
| Сям'я Стагановічаў у памяць Марыі Стагановіч | ам. дал. 100 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Хв. Кажаневіч | 50 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| А. Дубяга | 3 |

**Да нашых Чытачоў**

Надыходзяць калядна-навагодныя сьвяты. Традыцыйным звычаем прыхільнікі «Беларуса» віншуюць сваіх сваякоў, прыяцеляў са сьвятамі праз газэту «Беларус» і складаюць пры гэтай нагодзе ахвяраваньне на ейны далейшы выхад. А гэткія ахвяраваньні сёньня патрэбны больш, чым калі. З пачаткам новага году кошт выдаваньня газэты павялічваецца на дзесяць працэнтаў. Нядаўна падаражэла рассылка. Ёсьць выдаткі, зьвязаныя з выдаваньнем і пашырэньнем «Беларуса» на Бацькаўшчыне.

Мы спадзяёмся на Вашае разуменьне сытуацыі, у якой выходзіць «Беларус», і разьлічваем на Вашу шчодрую грашовую падтрымку. Пра важнасьць выхаду газэты гаварыць не даводзіцца: зьмест кожнага нумару сьведчыць пра гэта.

**Рэдакцыя «Беларуса»**